*А.А. ЯНОЎСКІ*

# АДМЕНА ПРЫГОННІЦТВА ЯК ПРАДМЕТ НАВУКОВЫХ ДАСЛЕДАВАННЯЎ КАФЕДРЫ ГІСТОРЫІ РАСІІ (ГІСТОРЫІ СССР) БДУ (1921–2011)

Прослежены основные тенденции и достижения в разработке проблем аграрной истории России и Беларуси сотрудниками нескольких поколений кафедры истории России (истории СССР) Белорусского государственного университета. Анализируется научная значимость их монографий и статей на тему причин, обстоятельств проведения и последствий отмены крепостного права в России в 1861 г. Одновременно обращается внимание на то, что историки были вынуждены учитывать при определении направлений научного поиска и в самих концептуальных построениях политическую обусловленность, изменчивость властной оценки Великих реформ. Утверждается, что в настоящее время стоит задача возродить интерес к разработке данной проблематики на новой научно-методологической основе.

The author retraced the main tendencies and achievements in research on agricultural history of Russia and Belarus performed by a few generations of research fellows at the Chair of Russian History (Soviet History) of the Belarusian State University. The author analyzes the scientific significance of their monographs and articles regarding the reasons and circumstances of realization and the effects of abolition of serfdom in Russia in 1861. Simultaneously the readers´ attention is drawn to the fact that while determining the directions of their research and conceptual compositions, the historians were obliged to consider political causality and inconstancy of governmental estimation of the great reforms. It is stated that currently the aim is to revive the interest in developing these topics taking into consideration new scientific and methodological foundation.

Сёння прадгісторыя, акалічнасці прыняцця ўрадавых рашэнняў і асабліва наступствы Вялікай рэформы 1861 г. успрымаюцца востра ў кантэксце сучаснага імкнення розных краін да лібералізацыі і мадэрнізацыі важнейшых сфер жыццядзейнасці, да дэмакратыі і г. д. Зразумела, што праз такое ўспрыняцце, праз асэнсаванне абставін і падзей фенаменальна асаблівай расійскай гісторыі ўвогуле і дакладна яе XIX ст. мы імкнёмся спазнаць важнейшыя катэгорыі цывілізацыйнага развіцця чалавецтва. Між тым «эпоха Вялікіх рэформаў» па-рознаму, нават процілегла ацэньвалася і ацэньваецца гісторыкамі. Неабходна заўважыць, што ў значнай ступені канцэптуальныя і прамежкавыя высновы заўсёды з’яўляюцца вынікам інтэлектуальных намаганняў кожнага з даследчыкаў, як бы персаніфікуюцца ва ўспрыняцці чытача. Таму ён, чытач, назапашвае свае веды, праблемы менавіта праз навуковую дасведчанасць і даказальнасць таго ці іншага інтэлектуала-гісторыка, які і становіцца для яго аўтарытэтам у дадзенай вобласці спасціжэння «эпахальных» падзей мінулага. І раней і цяпер усё больш праца навукоўцаў карэлюецца палітычнай атмасферай, жаданнем і здольнасцямі аўдыторыі ўспрымаць праблему не толькі ва ўсіх абставінах дакладнага часу, а як бы «ўсебакова», што часцей за ўсё выглядае як прыстасоўванне гістарычнай праблематыкі да патрэб сучаснага эканамічнага, сацыяльнага, а часцей – палітычнага развіцця.

Вось і ў 2011 г. з нагоды 150-годдзя адмены прыгоннага права ў Расіі збіраюцца канферэнцыі, друкуюцца кнігі і артыкулы. І нельга «дакапацца» да адназначных і грунтоўных высноў і ацэнак сутнасных вынікаў таго рашэння, што было прынята Аляксандрам Вызваліцелем. Ужо даўно нават навуку не заўсёды цікавіць дакладнасць, відавочны першасны і перспектыўны вынік ліквідавання прыгоннага ярма для мільёнаў расійскіх сялян. Навука цяпер усё больш занятая пошукам глабальнага, лёсавызначальнага ў перспектывах стагоддзяў, а на справе займаецца знаходжаннем прамых адказаў на пытанні-выклікі сённяшняга дня там, у далечыні мінулага, у зробленым і не зробленым продкамі. А ён, гэты дзень, мала каго задавальняе, бо ставіць перад цяперашнімі насельнікамі Планеты як бы зусім сакраментальныя пытанні аб перспектывах будучага дня, будучага жыцця асобы і ўсёй чалавечай цывілізацыі. І калі знайсці выйсце далёка не заўсёды ўдаецца за кошт уласных фізічных і разумовых намаганняў (напрыклад, на тым жа мадэрнізацыйным і дэмакратычным шляху), то прычыны бачацца дзесьці яшчэ больш туманнымі...

Сучасныя магчымасці інтэрнэту проста абрушваюць на зацікаўленага чытача процьму вельмі рознай па навуковаму ўзроўню і высновам інфармацыі, калі адным з самых простых абгрунтаванняў сённяшніх нашых праблем называецца тое, што рэфарматары XIX ст. ускосна ці напрамую сваімі рашэннямі вызначылі запаволенае і праблемнае развіццё Расіі і пасля 1861 г.: не столькі прычыны ў сутнасці рэформаў, а ў іх «недоконченности» і «отсутствии общего плана». Але не толькі віртуальнасць зносін паміж апанентамі дае магчымасць распрыгоніцца ў сваіх ацэнках адмены прыгонніцтва! Традыцыйныя канферэнцыі, «круглыя сталы» і іншыя навуковыя форумы паказваюць, што цяпер не ўсё так дрэнна са свабодай думак і меркаванняў у XXI ст. Не дарэмна пражылі нашы продкі 150 гадоў, па-рознаму адстойваючы ўласныя свабоды. Каб не быць галаслоўным, можна спаслацца хаця б на выступленні ўдзельнікаў навуковага сходу – прадстаўнікоў «Клуба 19 февраля». І калі дырэктар дзяржархіва Расіі С. Міроненка прама назваў рэформу няўдалай, хаця і вялікай: маўляў, так, сяляне як бы там ні было сталі свабоднымі, кранулася наперад мадэрнізацыя, у галовах сталі мроіцца высокія мары. Але ж праз нейкія 70 гадоў зноў Сталін узнавіў прыгонніцтва, так і не адбыўся сярэдні клас і г. д. (гэтая тэза прыводзіцца сёння часцей за ўсё метафарычна тымі даследчыкамі, якія дакладна займаюцца антысталінізмам, накшталт гісторыка-медыйшчыка М. Сванідзэ). Іншыя ж (напрыклад, Г. Сатараў) першаснае значэнне 1861 г. бачаць у годзе 1863-м, калі была запушчана ўніверсітэцкая рэформа, якая прынесла Расіі новы ўзровень адукаванасці, навукі, успесціла інтэлігенцыю. Трэція (Д. Арэшкін) дакладна ўказваюць на такія відавочныя наступствы адмены прыгонніцтва, як дэмаграфічны і ўрбаністычны выбух, як развіццё шляхоў зносін і перш за ўсё чыгункі[1]. На ўсё тым жа гісторыка-палітaлагічным узроўні расійскімі даследчыкамі (М. Дзелягін) звяртаецца ўвага на тое, што дзяржава пасля 1861 г. у абставінах працягу існавання несвабод не змагла стварыць сістэмнай, інтэграванай у вытворчасць стрымліваючай сілы (накшталт прафсаюзаў Германіі і мігрантаў ЗША), а таму парадзіла інтэлігенцыю, якая была «абсолютно враждебной государству»[2]. Такім жа поглядам і гісторыка-прафесіянала на праблему можна лічыць інтэрв'ю з былым дырэктарам Інстытута гісторыі РАН А.М. Сахаравым. Ён толькі і змог данесці да шырокага расійскага чытача думку аб немагчымасці мадэрнізацыйных змен ва ўмовах абмежавання свабод асобы (хаця дадаў пры гэтым, што «нашему человеку зачастую свобода не нужна»)[3]. На вышэйшым палітычным узроўні сучаснай Расіі 150-годдзе адмены прыгоннага права было адзначана ўдзелам прэзідэнта Д.А. Мядзведзева ў адпаведнай навуковай канферэнцыі, якая сімвалічна праходзіла ў будынку Заканадаўчага сходу (былы Марыінскі палац у Санкт-Пецярбургу). Ізноў былі агучаны вядомыя метафарычныя пазначэнні сутнасных характарыстык дакладнай гістарычнай падзеі: гэта гістарычная перамога Аляксандра II над Сталіным, гэта рэвалюцыі «зверху» і выключна смелы ўчынак палітыка, гэта прыклад таго, што «нельзя откладывать свободу на потом и бояться свободного человека»[4].

Уяўляючы дадзены аспект праблемы вывучэння прадгісторыі і гісторыі Вялікай рэформы, у каторы раз пераконваешся ў неабходнасці адыходу ад метафар і набліжэння гістарычнага мінулага да праблематыкі сённяшняга дня. Якраз неабходная навуковая дакладнасць і была найбольш характэрнай для даследчыкаў Вялікай рэформы 1861 г. на працягу мінулых дзесяцігоддзяў. Для сучасных гістарыясофскіх і паліталагічных (і палітычных, канешне) па свайму сэнсу пабудоў нашы папярэднікі напрацавалі велізарную наратыўную спадчыну, даўшы ўнушальную і скрупулёзную аналітыку нават дробным праяўленням рэфарматарскіх праяў другой паловы XIX – пачатку XX ст.

У дадзеным артыкуле не ставіцца задача, для параўнання з дзейнасцю кафедры гісторыі Расіі БДУ, акрэсліць кола нават найбольш грунтоўных прац у рэчышчы вывучэння сутнасці і наступстваў рэформ 1860–1870-х гг. Яно вельмі шырокае. Можна толькі спаслацца на тое, што зацікаўленасць да гэтай праблематыкі, некалькі згаслая ў недалёкім мінулым, зноў узнаўляецца. Так, тэма рэформаў у расійскай гісторыі натуральна стала цэнтральнай ва ўнушальным зборніку, падрыхтаваным і выдадзеным вучнямі і малодшымі калегамі вядомага даследчыка гісторыі Расіі XIX ст. П.А. Зайанчкоўскага[5]. Адзначым, што непасрэдным вучнем гэтага гісторыка з'яўляўся адзін з загадчыкаў кафедры гісторыі СССР БДУ І.В. Аржахоўскі, а дацэнт кафедры Ф.І. Адашчык прымаў удзел у навуковых семінарах, якія

праводзіў П.А. Зайанчкоўскі. У грунтоўных калектыўных манаграфіях і зборніках можна сустрэць спробы на сучасным узроўні ведаў крыніц (як правіла, зноў жа з пералажэннем іх на рэаліі сучаснасці) асэнсаваць і раней вядомыя факты, калі расійскія самадзержцы спрабавалі падступіцца да «балючага» пытання, а іх бліжэйшае атачэнне выказвала «крамольныя» думкі на гэты конт. Так, аналізуецца вядомая дэмагагічная заява Кацярыны II аб тым, што «не может земледелие процветать тут, где никто не имеет ничего собственного», ці перакананасць Аляксандра II у неабходнасці перш за ўсё займацца падрыхтоўкай адмены прыгонніцтва ў параўнанні з актуальнасцю вырашэння «польскага пытання» і пагібельнасцю для адзінства Расійскай імперыі рэалізоўваць ідэі панславізма. Яшчэ больш увагі надаецца сучаснымі расійскімі даследчыкамі (прыемна, што сярод аўтараў спецыяльных і агульных навуковых зборнікаў, якія выдаюцца ў РФ, можна знайсці і прозвішчы выкладчыкаў кафедры гісторыі Расіі БДУ) аналізу магчымасці ўплыву на вярхоўную ўладу найбольш радыкальна настроенай часткі (зразумела, элітарнай) дваранства: дваранскія праекты першай чвэрці XIX ст. (Румянцава, Сперанскага, Куракіна Козадаўлева, Мардвінава і інш.), запіскі А. Ункоўскага і А. Галавачова ад 1857 г., верыфікацыі ўласных напрацовак з улікам падыходаў і поглядаў на прадпасылкі і наступствы Вялікай рэформы, што склаліся ў замежнай гістарыяграфіі, і інш.[6]

На гэтым спрошчана пазначаным фоне можна з перакананасцю сцвярджаць, што ніколі не заставаліся ўбаку ад распрацоўкі дастаткова складаных і актуальных тэм і гісторыкі-выкладчыкі БДУ. Як бы не хацелася «всуе» зноў звяртацца да навуковай спадчыны У.І. Пічэты, але і ў дадзеным выпадку без яго імені не абысціся. І тут, у вывучэнні рэформы 1861 г. з усімі яе важнейшымі акалічнасцямі, ён быў і без сумнення застаецца адным з самых грунтоўных даследчыкаў. Можна назваць шмат работ, у якіх рэформа разглядаецца пад розным вуглом навуковага зроку першага беларускага ўніверсітэцкага рэктара. Па сутнасці, Уладзімір Іванавіч сваімі дысертацыямі па аграрнай рэформе Сігізмунда-Аўгуста, праведзенай у далёкім XVI ст., замацаваў за сабой права і на вывучэнне магутных па сацыяльна-эканамічных наступствах мадэрнізацыйных дзеянняў і працэсаў Новага часу, тым больш па расійскай і беларускай гісторыі. Дарэчы, якраз ён і стаў заснавальнікам асобнай кафедры гісторыі Расіі, што стала дзейнічаць ва ўніверсітэце літаральна з першых дзён яго (на сёння) 90-гадовай гісторыі.

Неабходна спаслацца на грунтоўнае гістарыяграфічнае прадстаўленне навуковай спадчыны У.І. Пічэты, што было зроблена яго калегам-гісторыкам Васілём Друшчыцам з нагоды 25-годдзя навукова-педагагічнай дзейнасці Уладзіміра Іванавіча. Адзначалася, што «навуковыя інтарэсы У.І. Пічэты надзвычайна шырокія. Яны датычаць гісторыі Літвы і Беларусі, гісторыі Украіны, гісторыі Расіі, паўднёвага славянства, архіўнае справы, пэдагогікі». Але якраз праблемы эканамічнага развіцця беларускіх тэрыторый на розных этапах гісторыі «з'яўляюцца асноўным навуковым ухілам У.І. Пічэты». І Друшчыц натуральна ўгледзеў працяг навуковага ўхілу расіязнаўцы ў яго працах савецкай пары – доследах па эканамічнай гісторыі Расіі і Беларусі другой паловы XIX – пачатку XX ст.[7]

Гэта адзнака малодшага калегі не ўтрымлівае многіх іншых фактаў менавіта такога навуковага інтарэсу У.І. Пічэты. Ён, яшчэ малады прыват-дацэнт, разам са сваімі аднакашнікамі па выпуску гісторыка-філалагічнага факультэта Маскоўскага ўніверсітэта С.П. Мельгуновым і А.К. Джывелегавым у 1910–1911 гг. стаў складальнікам і суаўтарам шыкоўнага 6-томніка «Великая реформа: Русское общество и крестьянский вопрос в прошлом и настоящем». Да гэтага часу такі грунтоўны падыход да разгляду найважнейшага, эпахальнага пытання-сюжэта расійскай гісторыі з'яўляецца ўзорным, а само выданне ставіцца ў першыя шарэнгі шматтысячнай навуковай літаратуры па аграрнай гісторыі ў цэлым і, зразумела, – па гісторыі і наступствах Вялікіх рэформ. У.І. Пічэта і потым не пакідаў без сваёй увагі такую шматзнакавую праблему, друкаваў свае дакладныя працы (напрыклад, і сёння ў Пецярбургу можна набыць у антыквараў кнігу У.І. Пічэты ў 160 старонак пад назвай «История крестьянских волнений в России», выдадзеную ў Мінску ў 1923 г., а праз два гады з'явілася яго даследаванне прадгісторыі рэформы крыніцазнаўчага плана). Як прафесар кафедры гісторыі Расіі БДУ, Уладзімір Іванавіч даводзіў да розных аўдыторый у вуснай форме абставіны і прычыны такой доўгай у часе несвабоды сялян Масковіі і Расіі, даваў параўнальныя навуковыя выкладкі з гісторыі землеўладання і землекарыстання беларусаў. Заглядаючы ў далёкае мінулае, гісторык імкнуўся быць больш зразумелым пры разглядзе бягучых сацыяльна-эканамічных працэсаў і векапомных зрухаў. Але тут ужо савецкі гісторык павінен быў не зыходзіць з «марксісцкай платформы» высноў і штодзённа адсочваць «сталінскую лінію» ў адносінах да кааператыўна-калгаснага ладу. І тым не менш, калі ў сакавіку 1924 г. Уладзімір Іванавіч павінен быў выступіць у «Звезде» з «выкрыццём палітыкі польскіх улад» у дачыненні да беларускіх сялян, гэта дало яму магчымасць звярнуцца і да 1861 г.: «Социально-политический гнет со стороны держателей аграрного капитала, как польского, так и русского, одинаково тяжело отражался на сельском населении всей Белоруссии. Глубокая классовая ненависть являлась мощным источником спайки всего белорусского крестьянства во все время существования помещичьего хозяйства… После формально-юридической ликвидации крепостного права, в белорусских городах, в связи с развитием капитализма, развивается ремесленная промышленность при незначительно развитой крупной промышленности...»[8]

Праз месяц гісторык, улюблёна распавядаючы на 34-м пасяджэнні «Таварыства гісторыі і старажытнасцяў» аб сутнасці «застаўнога землеўладання» ў ВКЛ, зноў жа актуалізаваў прыклады з беларускай гістарычнай даўніны, правёўшы паралелі паміж эканамічна-сацыяльнай праблематыкай XVI ст. і парэформенным часам у гісторыі Расіі другой паловы XIX – пачатку XX ст.: у абодвух выпадках ён убачыў вынік «паяўлення ў народнай гаспадарцы аграрнага капіталу» і «манапалізацыі зямель»[9]. У 1929 г. рэктар-гісторык у двух нумарах часопіса «Полымя» надрукаваў сваё даследаванне хваляванняў беларускіх сялян пасля 1861 г.[10] І гэта становіцца працягам яго артыкулаў аб рабочым і сялянскім руху напярэдадні 1905 г.

Не заставаліся ўбаку і калегі У.І. Пічэты па першай у БДУ кафедры гісторыі Расіі. Так, прафесар Д.А. Жарынаў не толькі чытаў курс гісторыі Расіі XIX ст., але і даследаваў абставіны да і пасля 1861 г. у гісторыі імперыі. Напрыклад, ён у 1926 г. выступіў з дакладам на пасяджэнні сацыяльна-гістарычнай секцыі Інбелкульту з дакладам «Весткі аб беларускай панскай гаспадарцы ў расійскіх часопісах 30–40 гадоў»[11]. Нават А.А. Савіч, які слыў выдатным знаўцам пытанняў гісторыі адукацыі і рэлігіі Расіі XVI–XVII стст., не змог не ўспрыняць «актуальнасць часу» ў дачыненні да тэматыкі сваіх гістарычных распрацовак. Праз кароткі час пасля развітання з кафедрай гісторыі Расіі БДУ і сваімі беларускімі калегамі ён ужо ў Пермі стаў даследаваць праблему манастырскага землеўладання[12]. У 1930-я гг. больш маладыя І.Ф. Лочмель, Д.А. Дудкоў, К.І. Кернажыцкі змаглі надрукаваць артыкулы і нават кнігі ці дакладна аб самой рэформе 1861 г.[13], ці аб развіцці капіталістычных адносін на Беларусі ад 1861 г. і амаль да 1917 г.[14] Тут неабходна падкрэсліць той факт, які чамусьці забываецца нашымі калегамі з Інстытута гісторыі НАН Беларусі, што якраз у 1930-я гг. наглядалася шчыльнае ўзаемадзеянне ў распрацоўцы актуальных тэм (а сацыяльна-эканамічныя пытанні, аграрная гісторыя тады былі надзвычай актуальнымі як у палітычным сэнсе, так і навуковым, бо яны менш за ўсё распрацаваныя дарэвалюцыйнай гістарыяграфіяй, а беларускай – тым больш) паміж універсітэцкімі і акадэмічнымі даследчыкамі. Гэта звязана з тым, што цяжка правесці нейкае размежаванне паміж імі: праца са студэнцкай аўдыторыяй часцей за ўсё сумяшчалася з працай у інстытуцкіх навуковых аддзелах, і наадварот. Таму без перабольшання можна казаць аб тым, што здабыткі таго пакалення беларускіх гісторыкаў у распрацоўцы азначанай тэматыкі можна лічыць агульнай спадчынай для БДУ і Інстытута гісторыі. А калі прыняць да ўвагі тое, што да канца 1950-х гг. у БДУ не існавала асобнай кафедры гісторыі Беларусі (ці БССР) і ўсе навуковыя распрацоўкі вяліся па кафедры гісторыі СССР, то мы можам залічваць на свой рахунак, рахунак цяперашняй кафедры гісторыі Расіі, навуковыя «плюсы і мінусы» гэтай спадчыны. Яскрава аб іх можна даведацца, калі прагарнуць старонкі некаторых сучасных гістарыяграфічных выданняў[15].

Новы ўсплеск навуковых інтарэсаў гісторыкаў, цяпер ужо кафедры гісторыі СССР (так кафедра гісторыі Расіі стала звацца з рубяжа 1920–1930-х гг.), да праблем Вялікіх рэформ, а дакладней – да менавіта аграрных пераўтварэнняў, а не, напрыклад, да абставін распрыгоньвання думак, асобы ці да нацыянальна-дэмакратычных працэсаў, адбыўся на рубяжы 1940–1950-х гг. І ён не спадаў амаль што да «перабудовачных часоў», калі вузкае ўспрыманне 1861 г. нашымі настаўнікамі пад вуглом зроку амаль што эканамічнай, а значыць класавай праблематыкі стала вызываць алергічную рэакцыю з боку чарговай хвалі найбольш радыкальна настроеных гісторыкаў-адраджэнцаў. Між тым непасрэдна ў пасляваенны час існаваў як бы знакавы момант: тыя, хто даследаваў пытанні грамадзянскай гісторыі, у адрозненне ад гісторыкаў партыі, займаліся «сапраўднай» гісторыяй, але не маглі далёка выйсці за межы патрабаванняў да «партыйнасці» навукі гісторыі. Таму тады відавочнай стала пэўнае «стоўпатварэнне» і акадэмічных, і ўніверсітэцкіх гісторыкаў вакол якраз падобнай праблематыкі даследаванняў. Яна давала прастору ў пошуку крыніц, хаця іх аналіз больш быў падобны на справаздачы статыстычнага ведамства: за лічбамі, адсоткамі, іх ростам ці зніжэннем хаваліся «недрукаваныя» высновы. Важна было, каб гэтая статыстыка магла быць карыснай для партыйнай навукі, каб укладвалася ў схему расійска-савецкага-нацыянальнай гісторыі, ачэрчанай уладнай рукой ужо ў 1930-я гг.

Звернемся да фактаў. У дакладзе на пасяджэнні секцыі гістарычных навук юбілейнай сесіі БДУ аб поспехах гістфака на 1951 г. дэкан Ф.М. Нячай адзначыў, што рэформа 1861 г. знайшла навуковае адлюстраванне ў кандыдацкіх дысертацыях выкладчыкаў кафедры гісторыі СССР. Так, у 1947 г. дысертацыі абаранілі дацэнт Мера Давыдаўна Мельцар на тэму «Крестьянское движение в Белоруссии накануне реформы 1861 г.», а Мірра Бенціянаўна Фрыдман – «Проведение реформы 1861 г. в Белоруссии», у той час як Марыя Парфір'еўна Баранава амаль што падышла да завяршэння працы над дысертацыяй на тэму «Крестьянское движение в Белоруссии в конце XVIII и начале XIX в. (1796–1810 гг.)» (азнаёміцца з аўтарэфератам гэтай дысертацыі можна сёння ў нашай «Нацыяналцы», а сама дысертацыя была паспяхова абаронена ў савеце БДУ ў 1953 г.). Пазней М.Б. Фрыдман надрукавала ў выдавецтве БДУ пашыраны да 200 старонак тэкст сваёй дысертацыі[16]. Яна шмат часу выкладала агульны курс расійскай гісторыі XIX ст., спецкурсы якраз па Вялікіх рэформах студэнтам гістфака БДУ і шмат гадоў слыла прызнаным аўтарытэтам у дадзенай вобласці.

Той жа Ф.М. Нячай у сваім дакладзе не без гонару падкрэсліваў, што яшчэ ў даваенны час Д.А. Дудкоў распрацоўваў у цэлым тэму капіталістычнага развіцця Беларусі і апублікаваў работы «Аб развіцці капіталізму ў Беларусі ў другой палове XIX – пачатку XX ст.» (Мн., 1932) і «Сталыпінская рэформа ў Віцебскай губерні» (Мн., 1931)[17].

Працяг такіх доследаў быў за А.І. Кажушковым, які ў рэчышчы падрыхтоўкі кандыдацкай дысертацыі «Развитие капитализма в сельском хозяйстве Белоруссии во второй половине XIX века» паспрабаваў саставіць пэўную «канкурэнцыю» цэлай групе акадэмічных гісторыкаў-аграрыяў. У 1962 г. Анатоль Іосіфавіч паспяхова абараніў вынікі свайго даследавання, стаў чытаць студэнтам гістфака, якія спецыялізаваліся па кафедры гісторыі СССР, шэраг спецкурсаў па дадзенай праблематыцы, але ў далейшым усё больш у навуковым плане схіліўся да распрацоўкі зусім іншай тэмы – гісторыі БДУ. Што засталося ў шырокім карыстанні навукоўцаў, дык гэта яго невялічкая манаграфія, падрыхтаваная на аснове дысертацыі і апублікаваная аўтарам праз год пасля абароны[18]. Яна і стала кіраўніцтвам да спасціжэння пытання некалькімі пакаленнямі студэнтаў БДУ 1960–1980-х гг. І яна ж раптоўна стала забытай, калі не адхіленай маладымі «умамі» ў іх імкненнях самастойна раскрыць глыбіні прадгісторыі і гісторыі Вялікіх рэформаў, іх уплыву-ўздзеяння на ўсе сферы жыцця беларусаў, на іх доўгі шлях да свабоды ў розных яе праявах і ў розным разуменні.

Потым на нейкі час выкладчык Ж.Б. Чэпа з «падачы» тагачаснага загадчыка кафедры гісторыі СССР дасавецкага перыяду І.В. Аржахоўскага сваёй навуковай зацікаўленасцю пэўны час увасабляла наяўнасць у даследчыцкім «арсенале» ўніверсітэцкіх гісторыкаў так спрошчаных бурлівымі палітычнымі падзеямі 1990-х гг. абставін 1861 г. у дачыненні, зразумела, Беларусі. Тэма яе дысертацыі была вызначана амаль што як калька з кандыдацкай дысертацыі Ігара Вацлававіча, якая была абаронена ім у МДУ яшчэ ў 1964 г. Калі назва дысертацыі загадчыка кафедры гучала як «Землевладение и землепользование помещичьих крестьян Нижегородской губернии во второй половине XIX века», то Жанна Барысаўна колькі гадоў распрацоўвала праблему «Землевладение и землепользование бывших помещичьих крестьян Могилевской губернии в пореформенный период». Шкада, што яна так і не была даведзена да завяршэння. І з ёю на кафедры гісторыі Расіі (так з чэрвеня 1998 г. стала зноў называцца былая кафедра гісторыі СССР) як бы абарвалася традыцыя паглыбленай распрацоўкі праблематыкі эканамічнай гісторыі, закладзенай намаганнямі У.І. Пічэты і яго калег.

Між тым калі кіравацца сучаснымі падыходамі да асэнсавання праблемы рэформаў у гісторыі Расіі XIX ст., якія зацвярджаюцца не толькі ў беларускай гістарычнай навуцы і гістарыяграфічных доследах, яе аналізуючых, то кафедра гісторыі Расіі па-ранейшаму знаходзіцца ў актыўным стане. А цяпер гэтыя падыходы пашырылі магчымасці і мэтавыя ўстаноўкі даследчыкаў беларускай і ў цэлым расійска-імперскай эканамічнай гісторыі да прасочвання яе праз «мадэрнізацыйныя парадыгмы»[19]. Можна згадаць, што колам навуковых інтарэсаў дацэнта В.В. Сяргеенкавай застаецца праблематыка ўздзеяння рэформаў на стан адукацыйнай прасторы Расійскай імперыі ўвогуле і Беларусі ў прыватнасці, на ўсплеск тэрарызму ў парэформенны час. А дацэнт Ю.А. Блашкоў сваімі артыкуламі працягвае вывучэнне аграрных пытанняў, аналізуючы спробы ўрада Мікалая І паўплываць на іх вырашэнне праз вядомыя, але так яшчэ да канца не даследаваныя ваенныя пасяленні. Творчая энергія С.Л. Лугаўцовай у большай ступені скіраваная на спазнанне неадназначнай палітыкі расійскага самадзяржаўя ў дачыненні да беларускага дваранства на працягу амаль што ўсяго часу знаходжання беларускіх тэрыторый у складзе Расійскай імперыі.

Непасрэдным вынікам такога навуковага задзелу можна лічыць выданне выкладчыкамі кафедры гісторыі Расіі двухтомнага вучэбнага дапаможніка па гісторыі Расіі і Украіны XIX – пачатку XX ст., які суправаджае адпаведны вучэбны курс (тыпавая праграма да яго таксама падрыхтаваная сіламі выкладчыкаў кафедры). У ім пытанні рэформаў, мадэрнізацыі, радыкальных і доўгатэрміновых змен на дадзеным гістарычным шляху Расіі, Украіны і Беларусі адсочваюцца па розных тэмах, а тым больш у сувязі з прадстаўленнем студэнту-гісторыку феномена 1861 г.

У набраўшым ход XXI ст. такая «вечная» тэматыка з пазіцый навуковых і педагагічных запатрабаванняў кафедры гісторыі Расіі ўсё часцей навуковымі кіраўнікамі прапаноўваецца да распрацоўкі дыпломнікам, магістрантам і аспірантам. Менавіта такім чынам быў «падведзены» да яе студэнт, магістрант, а потым і аспірант В.А. Кахновіч. Бліскучая абарона яго дысертацыі на тэму «Гаспадаранне ў маёнтках Палескага рэгіёна Расійскай імперыі ў 1861–1914 гг.» дае падставы лічыць, што праблематыка складанага XIX ст., такога вызначальнага для беларусаў пад вуглом зроку Вялікіх рэформаў і не толькі, і надалей будзе не зыходзіць з даследчыцкіх небасхілаў кафедры гісторыі Расіі БДУ. Аб гэтым сведчыць як працяг творчай актыўнасці маладых і сталых даследчыкаў у дакладна абраных імі накірунках, так і правядзенне пад эгідай кафедры «круглага стала» з нагоды 150-годдзя адмены прыгоннага права (ён сабраў амаль 50 навукоўцаў з універсітэтаў і Інстытута гісторыі НАН Беларусі), пашырэнне тэматыкі дыпломных прац, магістарскіх і кандыдацкіх дысертацый. Да гэтага прымушаюць абставіны цяперашняга часу, калі мы значна глыбей у параўнанні з эйфарычнымі 1990-мі гг. спасцігаем неразрыўнасць сувязей паміж эканамічным дабрабытам і перспектывамі мадэр-

нізацыйных дзеянняў урада і грамадства і асабістымі свабодамі, свабодай і забяспечанасцю ўмовамі эканамічнай дзейнасці, прадпрымальніцтва кожнага, хто працуе на сябе, а разам з тым – і на грамадства.

[1] Гл.: Известия. 2011. 18 февр.
[2] Там жа. 25 февр.
[3] Там жа. 24 февр.
[4] Там жа. 4 марта.
[5] Гл.: Петр Андреевич Зайончковский: Сб. ст. и воспоминаний к столетию историка / Сост. Л.Г. Захарова, С.В. Мироненко, Т. Эммонс. М., 2008.
[6] Гл.: Российская империя: от истоков до начала XIX века. Очерки социально-политической и экономической истории. М., 2011. С. 467; Проблемы отечественной истории: Источники, историография, исследования: Сб. науч. ст. СПб.; Киев; Мн., 2008. С. 279–285; Проблемы российской истории. М.; Магнитогорск, 2007. Вып. 8. С. 50–61, 145–159; Российский архив (История Отечества в свидетельствах и документах XVIII–XX вв.). М., 1992. Вып. 2, 3. С. 98–118.
[7] Гл.: Звезда. 1926. 31 окт.
[8] Там жа. 14 марта.
[9] Савецкая Беларусь. 1924. 10 крас.
[10] Гл.: Пічэта У.І. Сялянскія рухі на Беларусі пасля аграрнай рэформы 1861 г. // Полымя. 1929. № 8-9. С. 126–153; № 11-12. С. 208–222.
[11] Звезда. 1926. 24 окт.
[12] Гл.: Яновский О.А. Экзамены на выживание у суровой «учительницы жизни» // Российские и славянские исследования: Науч. сб. Мн., 2010. Вып. 5. С. 295.
[13] Гл.: Лочмель І.Ф. Адмена прыгоннага права на Беларусі ў 1862 г. // Бальшавік Беларусі. 1939. № 5. С. 84–95.
[14] Гл.: Дудкоў Д.А. Аб развіцці капіталізму ў Беларусі ў 2-й палове XIX і пачатку XX ст. Мн., 1932; Кернажыцкі К.І. Да гісторыі аграрнага руху на Беларусі перад імперыялістычнай вайной. Мн., 1932.
[15] Гл.: Институт истории Национальной академии наук Беларуси (1929–2009) / А.А. Коваленя и др. Мн., 2009. С. 408–413.
[16] Гл.: Фридман М.Б. Отмена крепостного права в Белоруссии. Мн., 1958.
[17] Гл.: Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ). Ф. 205. Воп. 5. Спр. 1179. Л. 151–174; Ф. 4. Воп. 73. Спр. 3. Л. 165.
[18] Гл.: Кожушков А.И. Развитие капитализма в сельском хозяйстве Белоруссии во второй половине XIX века. Мн., 1963.
[19] Гл.: На шляху станаўлення беларускай нацыі: гістарыяграфічныя здабыткі і праблемы / В.В. Яноўская і інш. Мн., 2011. С. 152.

Паступіў у рэдакцыю 17.05.11.

***Алег Антонавіч Яноўскі*** – кандыдат гістарычных навук, прафесар, загадчык кафедры гісторыі Расіі. Сфера навуковых інтарэсаў – гісторыя Расіі, Украіны і Беларусі (інтэлігентазнаўства, гісторыя вышэйшай школы, міжнародныя адносіны XVI–XVII стст.). Аўтар каля 250 публікацый (з іх 8 манаграфій, больш за 40 падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў па гісторыі Расіі, Украіны і Беларусі для ВНУ і сярэдняй школы Рэспублікі Беларусь). Узнагароджаны Ганаровай граматай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, нагрудным знакам «Выдатнік адукацыі Рэспублікі Беларусь». Прысвоена ганаровае званне «Заслужаны работнік БДУ».